

# НАША СЛОВА

*Культурна-асветніцкая штотыднёвая беларуская газета*

(Выходзіць з сакавіка 1990 г.) **№ 9 (325)** 27 лютага — 5 сакавіка 1997 г. Кошт -- 1500 рублёў




## ПОСТУП ТЫДНЯ



●**У нашай краіне рыхтуецца канцэпцыя далейшага развіцця Супольніцтва Расіі і Беларусі, якая будзе прапанавана для абмеркавання на сустрэчы Аляксандра Лукашэнкі і Барыса Ельцына ў Маскве 7 сакавіка.** Канкрэтна прапаноўвацца будзе сумеснае вырашэнне нейкіх асобных праграм, якія немагчыма рэалізаваць дзвюм краінам паасобку. Друп накірунак — рэалізацыя правоў і інтарэсаў грамадзян дзвюх дзяржаў.

●***Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Сяргей Сцяпанавіч Лінг назначаны прэм'ер-міністрам Рэспублікі Беларусь.***

●**У Менску па вуліцы Камуністычнай адбыліся ўрачыстасці з нагоды закладкі першай цагліны ў будынак пасольства Украіны.** Першы намеснік старшыні Менгарвыканкама Генадзь Сянкевіч сказаў, што для Беларусі гэта першы будынак, які ўзводзіцца замежнай дзяржавай у нашай краіне для сваёй дыпламатычнай місіі. Гэта значыць, што Украіна верыць у тое, што незалежны статус, як і Украіна, мае і будзе мець Беларусь.

●***У Міністэрстве эканомікі нядаўна быў разгледжаны шэраг пытанняў па праекце Нацыянальнай праграмы міжнароднага тэхнічнага супрацоўніцтва на 1997 — 1999 гг.*** *Неабходна адзначыць, што аб'ём міжнароднай тэхнічнай дапамогі Беларусі за 1991 — 1996 гг. склаў звыш 100 мільёнаў долараў. Найбольш значнымі "донарамі" для Беларусі сталі Еўрапейскі саюз, Сусветны банк, Еўрапейскі банк развіцця і рэканструкцыі, урады Германіі і ЗША і інш.*

●**Народнаму артысту Беларусі, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Міхаілу Фінбергу споўнілася 50 гадоў.** Віншуем і жадаем надалей плёну на ніве беларускай песні!

●***На пасяджэнні камісіі па адукацыі, культуры, навуцы і тэхнічным прагрэсе адбылося абмеркаванне канцэпцыі фарміравання школьнай праграмы, вучэбных планаў*** *у сувязі з пераводам сярэдніх школ нашай краіны на пяцідзённы навучальны тыдзень. Канцэпцыю распрацавала Міністэрства адукацыі. Вырашана рэфармаваць адукацыю паэтапна, пачынаючы з новага навучальнага года. У прыватнасці, прапанавана першую і чацвёртую чвэрці праводзіць у рэжыме пяцідзёнкі, а другую і трэцюю — шасцідзёнкі. Гэта прывядзе да больш працяглага школьнага навучання — 12 гадоў. Навучальны год прадоўжыцца да сярэдзіны чэрвеня, а школьныя канікулы скароцяцца.*

●**Новым прэзідэнтам Цэнтра стратэгічных ініцыятыў "Усход-Захад"** на месца Анатоля Майсені, які трагічна загінуў у аўтамабільнай катастрофе, абраны Леанід Заіка.

**Падрыхтаваў В. Ш.**

## АДШУМЕЎ ВЯЛІКІ КНІЖНЫ КІРМАШ

На працягу трох дзён Менск быў месцам сустрэчы выдаўцоў з многіх краін свету. Тут у памяшканні Рэспубліканскага выставачнага цэнтра праходзіў IV Міжнародны кніжны кірмаш, арганізатарамі якога сталі Дзяржаўны камітэт Беларусі па друку, Міністэрства культуры РБ і Асацыяцыя распаўсюджвальнікаў кнігі СНД. У кірмашы прынялі ўдзел больш за 300 кнігагандлёвых фірмаў з 11 краін, у прыватнасці, з Вялікабрытаніі, Германіі, Польшчы, Расіі і іншых. Найбольш шырока, як і належыць, на кірмашы былі прадстаўленыя выдавецтвы нашай краіны.

Сваю прадукцыю дэманстравалі 10 дзяржаўных выдавецтваў Беларусі, Менская фабрыка каляровага друку, камерцыйныя фірмы "Парадокс", "Віцьба", "Ікорн". Дзякуючы шырокаму прадстаўніцтву на кірмашы было заключана шмат дзелавых кантактаў, а само мерапрыемства па прызнанні ўдзельнікаў стала прыкметнай падзеяй у культурным жыцці нашай краіны.

**А.Ніс.**

*З нагоды*

## Беларускі фонд Сораса — Беларусі

Адбыўся VIII з'езд Беларускага фонду Сораса — рэспубліканскай грамадскай арганізацыі, якая дзейнічае ў нашай краіне пяты год.

Чарговы з'езд падвёў вынікі дзейнасці фонду ў 1996 годзе. У справаздачах старшыні Назіральнай Рады Наталлі Андрэйчык, выканаўчага дырэктара Пітэра Берна і рэвізійнай камісіі была дадзена высокая ацэнка ролі БФС у беларускім грамадстве і названыя самыя паспяховыя праграмы і праекты, падтрыманыя Беларускім фондам Сораса ў сферы адукацыі і навукі, культуры і эканомікі, медыцыны і экалогіі, грамадзянскай супольнасці і мас-медыя. Агульная сума, выдаткаваная на гэтыя ініцыятывы, склала шэсць мільёнаў долараў ЗША. На разгляд экспертаў фонду ў 1996 годзе было пададзена 4,5 тысячы праектаў ад грамадзян Беларусі. Каля 2000 з іх былі прызнаныя вартымі фінансавай падтрымкі.

Дэлегаты VIII з'езда Беларускага фонду Сораса абралі новы склад Назіральнай Рады, якая будзе кіраваць дзейнасцю фонду бліжэйшыя два гады. Да чатырох членаў ранейшага складу далучыліся пяць новых: вядомыя беларускія пісьменнікі Святлана Алексіевіч і Валянцін Тарас, намеснік міністра эканомікі Андрэй Тур, юрыст Сяргей Леўшуноў і журналіст Раман Якаўлеўскі. Такая схема змяненняў у складзе Назіральнай Рады дазваляе ўзбагаціць дзейнасць фонду новымі ідэямі і новай энергіяй, захаваўшы пры гэтым лепшыя традыцыі і вопыт, што былі назапашаныя за папярэднія гады дзейнасці Беларускага фонду Сораса.

**Служба інфармацыі і грамадскіх сувязяў Беларускага фонду Сораса.**

## У сям'і сіротаў няма

Два гады таму ў сям'і Афанасьевых з вёскі Вялікія Межнікі Шклоўскага раёна вырашылі, што пяцярым іх сынам не стае сястры. Неўзабаве ў доме з'явілася прыёмная дачка Алена, прывезеная з дашкольнага дзіцячага прытулку. Цяпер у сям'і ўжо сем прыёмных дачок. Нядаўна яны атрымалі афіцыйны статус сямейнага дзіцячага дома, а хутка перасяляцца і ў новае жыллё. Калгас імя Дзяржынскага і райвыканкам далі ім палову пустога дзіцячага садка. У ім заканчваецца капітальны рамонт, пасля якога вялікай сям'і будуць дадзеныя гасцёўня з камінам, вялікай кухняй, пральня.



**На здымку:** Сям'я Афанасьевых, хоць і не ў поўным складзе.

**Фота Аляксандра ЛІЦІНА**

## Конкурс!

Беларуская асацыяцыя журналістаў прапанавала ўзяць удзел у конкурсе па выніках 1996 года.

Прэміі прысуджвае кампетэнтнае журы, у складзе якога члены праўлення БАЖ і аўтарытэтныя журналісты. Мэтай конкурсу ёсць заахвочванне творчасці журналістаў, праца якіх вызначаецца высокім прафесіяналізмам, наватарствам, актуальнасцю і аб'ектыўнасцю інфармацыі.

Конкурс па выніках 1996 года праводзіцца па шасці намінацыях:

***у прэсе***

*"За лепшы інфармацыйны матэрыял",*

*"За лепшы аналітычны матэрыял",*

*"За лепшы фотарэпартаж",*

***у электронных СМІ***

*"За лепшы радыёматэрыял",*

*"За лепшы тэлематэрыял",*

***а таксама***

*"За грамадзянскі ўчынак".*

Заяўкі на ўдзел у конкурсе прымаліся ад рэдакцыяў, тэлекампаніяў і асобных журналістаў. У заяўцы называецца аўтар, ягоны адрас; да яе прыкладаецца творчы матэрыял (ксеракопіі публікацыяў альбо аўдыё-, відэакасета), які потым вяртаецца аўтару.

Уручэнне прэмій і адпаведнага дыплома адбудзецца 1 сакавіка на з'ездзе Беларускай асацыяцыі журналістаў у г. Менску.

*Справы судовыя*

# ЦАНА ЭПІТЭТА — 10 МІЛЬЁНАЎ

Чатыры дні запар у Маскоўскім райсудзе сталіцы доўжыўся апошні па ліку працэс "Дырэктар навукова-даследчага інстытута гематалогіі і пералівання крыві Міністэрства аховы здароўя прафесара Яўгена Іванова — супраць пісьменніка-дакументаліста, галоўнага рэдактара сацыяльна-экалагічнай газеты "Набат" (ужо неіснуючай) Васіля Якавенкі". Вышэйназваная газета выходзіла пад эгідай Сацыяльна- экалагічнага саюза "Чарнобыль" і спыніла існаванне ў траўні 1996 года ў сувязі з адсутнасцю сродкаў на выданне. Тым не менш, рэха ад яе публікацый яшчэ, як бачым, адчуваецца, і не ўсе, як аказалася, падтрымлівалі "Набат" у адстойванні пэўных пазіцый адносна погляду на ўвесь комплекс сацыяльных і медычных наступстваў чарнобыльскай катастрофы для беларусаў, у прыватнасці, для дзяцей. Адзін з вынікаў гэтых разыходжанняў, калі браць па вялікім рахунку, і скончыўся згаданым тут судовым разбіральніцтвам. Магчыма, вынік яго быў бы і іншым, каб не ўзнікла гэтакіх палярных поглядаў адносна эпітэта, ці вобразна-эмацыянальнай ацэнкі дзеянняў згаданага вядомага вучонага-гематолага ў двухмоўным (адзначаем гэта дзеля далейшай дакладнасці аповяду) аўтарам Васілём Якавенкам у сакавіцкім нумары за 1995 г. "Набата" ў артыкуле пад загалоўкам (цытуем згодна мовы арыгіналу) "Горазд мошенничать профессор Иванов". Зразумела, больш абачлівы аўтар, ведаючы, колькі ўжо судовых працэсаў было ўсчынена (і часта выйграна) супраць журналістаў па разрадзе абароны гонару і годнасці асобы, знайшоў бы іншую форму характарыстыкі дзеянняў героя свайго артыкула, але тут, безумоўна, яшчэ "спрацаваў" і "выбуховы" характар літаратурнага почырку Васіля Якавенкі. Здаецца, ён у апошнюю чаргу разважае пра магчымыя юрыдычныя ды іншыя наступствы для сябе асабіста, калі выказвае свае погляды на нейкія грамадскія з'явы ці ўчынкі.

Дадамо яшчэ, што Васіль Якавенка, займаючыся чарнобыльскімі бедамі людзей, сам збалеўся за іх душой. Варта пачытаць хаця б зборнік "След чорнага ветру" — пра пакуты дзяцей, пацярпелых ад чарнобыльскай радыяцыі, рэдактарам-складальнікам якога стаў Васіль Якавенка, каб зразумець, колькі нерваў каштавала яму такая праца. Гэтая кніга — дакумент, дарэчы, яскравае сведчанне не толькі пра цяжкія пакуты сённяшніх беларускіх дзетак -"чарнобыльцаў" ды іхніх гаротных бацькоў, але і яшчэ адна важкая падстава вельмі сур'ёзна задумацца пра нашую "дарослую" адказнасць за лёс генафонду нацыі. Яна ж прымушае адназначна адмоўна паставіцца да тых, хто ні ўчора, ні сёння (ужо нават столькі ведаючы пра беларускую бяду!), не робіць належных захадаў дзеля аздараўлення і ўратавання нашай дзятвы.

Саюз "Чарнобыль", які ўзначаліў Васіль Якавенка, разам з Дзіцячым фондам, які ўзначаліў пісьменнік Уладзімір Ліпскі, разам з фондам "Дзеці Чарнобыля" на чале з Генадзем Грушавым, разам са шматлікімі нашымі энтузіястамі з ліку нацыянальнай беларускай інтэлігенцыі шмат зрабілі (і робяць), каб не толькі дапамагчы пацярпелым, але і каб

(Заканчэнне на стар.3.)

## Але!

# УРА! НАШЫ - У КРАМЛІ!

Нічога не маю супраць культурных і дзелавых сувязяў з братнім расійскім народам. Праўда, не ў такой ступені, каб на адказныя дзяржаўныя пасады прызначаліся расійскія вайскоўцы альбо яшчэ хто з учарашніх грамадзянаў РФ з ліку іхняга кіруючага істэблішмэнту.

Усё-такі вакансіі трэба запаўняць грамадзянамі Рэспублікі Беларусь, якія маюць розум і адпаведны досвед у сваёй справе. Незалежна, само сабой, ад іх нацыянальнага паходжання. Хаця мне асабіста здаецца, што беларусы маюць большае права будаваць дзяржаўную ўладу. На што, паміж іншым, нават указваў і інтэрнацыяналіст У.І.Ленін.

Дарэчы, вельмі паказальна, што ў нядаўнім вялікім інтэрв'ю, дадзеным Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь рэдактару газеты "Советская Белоруссия", кіраўнік дзяржавы нагадаў, што ён — пераемнік Льва Сапегі, а гісторыя Беларусі мае свае карані ў Вялікім Княстве Літоўскім.

Тым не меней, зацыкленая на інтэграцыйным "единении" прэса так і не зрабіла аргвысноваў з даволі слушных разважанняў шаноўнага Аляксандра Рыгоравіча. І ў некаторых газетах "славянскі" ажыятаж даходзіць проста да адыёзных публікацый.

Я, напрыклад, з павагай стаўлюся да матэрыялаў абласной газеты "Мінская праўда", у якіх калегі змагаюцца за чысціню і незасмечанасць беларускай мовы, расказваюць пра энтузіястаў нацыянальнай культуры з глыбінкі, прапагандуюць рынкавыя прынцыпы ў развіцці народнай гаспадаркі, адстойваюць правы беларускіх дзяцей на шчаслівую будучыню.

А таму, убачыўшы ў нумары "МП" ад 11 лютага 1997 года нататку Мікалая Чалея "Чубайс — з Барысава", нямала падзівіўся. Салідны журналіст, у якога на рахунку нямала цікавых матэрыялаў на сур'ёзныя тэмы, з нейкім проста-такі дзіцячым захапленнем апавядае, што вось у атачэнні прэзідэнта РФ, аказваецца, ёсць наш зямляк — першы памочнік ды кіраўнік Адміністрацыі Барыса Мікалаевіча Ельцына Анатоль Чубайс. Што нарадзіўся той 16 чэрвеня 1955 года ў сям'і вайскоўца Барыса Мацвеевіча Чубайса і хатняй гаспадыні Раісы Хаймаўны Сагал. Што на той час сям'я Чубайсаў жыла ў кватэры № 11 дома № 2 па вуліцы Дняпроўскай у вайсковым гарадку Лядзішча.

"На жаль, — у роспачы заўважае беларускі журналіст і даследнік біяграфіі сямейства Чубайсаў, — ніякіх дакументаў, якія пацвердзілі б, колькі яшчэ гадоў гэтая сям'я пражывала ў Барысаве, не захавалася".

"Гэта цікава" — пад такой рубрыкай пададзенае паведамленне шаноўнага журналіста. Цікава — чым?

Цікава, калі ў Маскве апынуўся некалі Сімяон Полацкі і прынёс у царскія палаты ўсходніх суседзяў беларускую культуру, арганізаваў друкарскую справу, стварыў асяродкі адукацыі і г.д.

Цікава, калі нашыя землякі з ліку габрэяў арганізоўвалі дзяржаву Ізраіль ды ўзначалілі першыя ўрады гэтай краіны. Як, напрыклад, Голда Меір.

А расійскіх чыноўнікаў, у тым ліку высокага рангу, якія нарадзіліся ў Беларусі, а потым нічым ёй не паспрыялі, было даўно многа і што тут новага і цікавага?

Неяк мне болей па душы тыя браты-расійцы, якія пастараліся да станаўлення беларускай навукі, культуры і мовы. Як, скажам, У.Пічэта, які арганізаваў у Менску Белдзяржуніверсітэт ды даследаваў гісторыю Вялікага Княства. Ці як М.Замоцін, які па каліўцу сабраў вершы незабыўнага Максіма Багдановіча ды садзейнічаў іх выданню. Ці як В.Байкоў, адзін са складальнікаў першага расійска-беларускага слоўніка.

У 30-х — 40-х гадах гэтыя людзі былі рэпрэсаваныя як ... беларускія нацдэмы. Гэта і цікава, і павучальна. Шкада, што ў нас пакуль не назвалі імёнамі гэтых сапраўдных сяброў беларускага народа вуліцы і плошчы. А цяпер уявім сабе, што журналіст з "Мінскай праўды" прапануе вуліцу Дняпроўскую ў Лядзішчах перайменаваць у вуліцу Чубайса. Мяркую, гэта стане і ў Маскве сенсацыяй.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА,**
**сябра праўлення БАЖ.**

## У газетах

### Школьнай адукацыі ў вёсцы Даўгінава — 135 гадоў

У 1862 годзе ў вёсцы Даўгінава Вілейскага раёна адкрылася царкоўна-прыходская школа. Адгэтуль бярэ пачатак сённяшняя Даўгінаўская СШ. Але ў мястэчку, дзе жыло нямала габрэяў, меліся таксама і хедэр, і ешыбот — школы дзеля габрэйскіх дзетак. А гэта таксама адна са старонак гісторыі народнай асветы ў Даўгінаве. І, між іншым, старонка цікавая.

Так, у хедэры і ешыбоце вучыўся Яфім Плаўнік, які потым стаў слынным беларускім пісьменнікам Змітраком Бядулем.

Са срэбраным медалём скончыла ўжо ў часы новай гісторыі Даўгінава пані Гойцэра, што стала нават міністрам аховы здароўя Ізраіля. Даўгінаўскую СШ скончыў і цяперашні прафесар Вроцлаўскага ўніверсітэта пан Сяліцкі, аўтар кніг пра гісторыю Даўгінава, Крывічоў і Будслава. Польскі вучоны і сёння мае перапіску з аднакласніцай, мясцовай жыхаркай Марыяй Петражыцкай — выпускніцай 1937 года.

Сярод выпускнікоў, а іх у пасляваенны час было больш за 2 тысячы, ёсць дактары медыцынскіх навук, прарэктары інстытутаў, дыпламаты. Устаноўлена, што з цяперашніх 30 настаўнікаў Даўгінаўскай СШ № 18 — яе былыя вучні.

Літаральна па каліўцу збіралася гісторыя адукацыі ў мястэчку, гісторыя Даўгінаўскай школы. Напрыклад, была знойдзена дакументальная статыстыка, што напрыканцы XIX стагоддзя ў царкоўна-прыходскай школе займаліся 50 хлопчыкаў і 11 дзяўчынак.

### У Ашмянах працуюць на Адраджэнне

Больш за 10 аматарскіх аб'яднанняў шчыруюць на ніве адраджэння беларускай культуры, што "прыпісаныя" да дамоў культуры Ашмянскага раёна.

Старэйшаму з іх — "Спадчыне", што ў Гальчунах, — дзесяць гадоў. Тут умела і цікава прапагандуюць і сучасную культуру, і нацыянальныя традыцыі і звычаі штодзённага побыту беларусаў.

А пры Мур-Ашмянскім цэнтральным доме культуры і Гальшанскай бібліятэцы працуюць аб'яднанні з аднолькавай назвай "Ліра".

Ёсць і больш спецыфічныя клубы па інтарэсах. Напрыклад, — "Гамбіт" або "Сям'я".

### "ТэСт" — гэта тэатр-студыя беларускай гімназіі з Маладзечна

Днямі адзначыла сваё дзесяцігоддзе тэатр-студыя "ТэСт", якая працуе ў Маладзечанскай беларускай гімназіі. Гэта адзіны ўзорны ў Рэспубліцы Беларусь калектыў у сістэме адукацыі.

Разам з матэматыкай, гісторыяй ды іншымі прадметамі тэатру належыць важнае месца ў павышэнні інтэлекту гімназістаў. Для навучэнцаў 6 — 7-х класаў створаны дзве тэатральныя студыі. У групе падоўжанага дня дзейнічае лялечны тэатр. Вучні малодшых класаў з вялікім задавальненнем наведваюць заняткі пад назвай "тэатральныя гульні".

Кіруе калектывам "ТэСт" намесніца дырэктара гімназіі Т.Бабей, якая стала пераможцай апошняга абласнога прафесійнага конкурсу "Педагог года".

**(Па матэрыялах "Рэгіянальнай газеты", 1997.)**

*Культурна-асветніцкая штотыднёвая беларуская газета*
НАША СЛОВА
*Our Word*
*Unser Wort*
*Naša Slowa*

**Падпісны індэкс 63865**

**ЗАСНАВАЛЬНІК: Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны**

Газета зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце Рэспублікі Беларусь па друку.
Рэгістрацыйнае пасведчанне **№ 83.**

***Рэдакцыйная калегія:***
Эрнэст ЯЛУГІН — **галоўны рэдактар**

Лявон БАРШЧЭЎСКІ,
Янка БРЫЛЬ,
Анатоль БУТЭВІЧ,
Радзім ГАРЭЦКІ,
Ніл ГІЛЕВІЧ,
Вольга КУЗЬМІЧ,
Уладзімір ЛАМЕКА,
Уладзімір ПАНАДА,
Зміцер САНЬКО,
Здзіслаў СІЦЬКА,
Алег ТРУСАЎ,
Генадзь ЦЫХУН.
**Адказны сакратар** — Уладзімір АНІСКОВІЧ.
**Кампутарны дызайн** — Ірына ДЗІВІНА.
**Кампутарны набор:** Тамара АЎСЯННІКАВА, Вера ВАРАНЦОВА.
**Тэхнічны рэдактар** Валянціна КАРАТКЕВІЧ.
**Карэктары:** Жанна КАЗЛОЎСКАЯ, Генадзь КАЖАМЯКІН.

**Адрас рэдакцыі:** 220029, г. Менск, вул. Чычэрына, 1, 3-і паверх.
**Тэлефон: 233-17-83.**

Кампутарнае забеспячэнне пры падтрымцы Беларускага аддзялення Фонду Сораса.

## *Сатырык Міхаіл Задорнаў абвінавачваецца ў бездухоўнасці*

"Міхаіл Задорнаў — усенародна вядомы востраcловец — толькі адзін з пярэстай каманды "жартаўлівых людзей", што засялілі скрынку (тэлевізар — **"Н.С."**)

Памятаеце, як ён на поўную губу парагатаў з тэлеэкрана з радкоў са старых савецкіх песняў?

Ну, гэта ж трэба было прыдумаць гэткае, да ікаўкі ўрагочышся: "Жила бы страна родная, и нету других забот"!.. Зразумела, гэты гумар для дэбілаў адразу быў растыражаваны ў запісах.

Старанні сатырыка былі прыстойна ўзнагароджаныя, і ён цяперака хоць кожны дзень можа часацца аб панскія, пардон, царскія ганкі, бо займеў гонар быць суседам расійскага прэзідэнта.

Нам жа даводзіцца пажынаць плады гэтай выхаваўчай дзейнасці: калі згадваецца слова "Радзіма", юныя твары скажаюцца глумлівай усмешачкай.

("Белоруссия", №10, 1997)

**P.S чытальніка:**

Гэтая вытрымка ўзята з даволі дэмакратычнай па сённяшніх мерках газеты "Белоруссия", а больш канкрэтна з публіцыстычнага нарыса "Кто взрастил чертополох?" настаўніцы гісторыі Любові Рэйзінай. Шаноўная аўтарка даволі трапна падкрэсліла асноўныя прыкметы той антыпедагагічнай з'явы ў цяперашнім як беларускім, так і расійскім грамадстве, што вядуць моладзь, падлеткаў да бездухоўнасці, ад якой зусім недалёка да згубы пакалення.

Але ёсць адна заўвага. Сп. Рэйзінай вельмі шкада той, учарашняй, "Родины", якую высмеяў Міхаіл Задорнаў і ў развале якой вінаватыя не трое "белавежскіх зуброў" і нават не першы і апошні савецкі прэзідэнт, а, мусіць, тое, што гэта "Родина" цягам 70 з гакам гадоў знішчала невінаватых у ГУЛАГах, раскулачвала, высылала на Крайнюю Поўнач цэлыя народы і "ворагаў народа". Дзе чалавек быў толькі шрубчыкам, перад якім "Родина" не несла аніякай адказнасці за кроў, слёзы і сіроцтва.

Менавіта гэткай "Родины" не трывае сатырык Міхаіл Задорнаў.

Але гісторыя магла б сваё слова закінуць за Радзіму — тую зямлю і той народ, што дзякуючы "великой и неделимой Родине" рвалася на кавалкі між Польшчай, Летувой, Германіяй і Расіяй, губляла мову, культуру ды іншыя духоўныя каштоўнасці, на якіх сёння трэба выхоўваць беларускую моладзь.

Скажам, хто такі ў сапраўднасці для нас Пётр I?

Забойца царкоўных служак у Полацку, адзін з тых, хто разам са шведамі дратаваў нашую зямлю і нішчыў наш люд.

І няўжо ў паважанай аўтаркі не хапіла сэрца, каб не паставіць тую ж самую праблему, калі некаторыя журналісты і палітыкі беларускае матчына слова ўжываюць у негатыўным кантэксце. Ды, уласна, так робіць сама Любоў Рэйзіна з тым жа словам "тутэйшыя".

Ці дададуць моладзі духоўнасці гэткае стаўленне да мовы беларускага народа?

**Чытаў газеты Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**

## Надзённае

# Сніў, што размаўляю па-беларуску...

Сёння субота. Прынеслі газеты. Неяк неўпрыкмет прывучылі нас да таго, што ў нядзелю і ў панядзелак у паштовай скрыні не знойдзеш ні газет, ні паштовак. Трымаю ў руках новую для сябе ў гэтым годзе газету "Наша слова", бо падпісаўся на яе ўпершыню.

Шчыра кажучы, толькі на пачатку мінулага года даведаўся, што ёсць такая беларускамоўная газета, бо звычайна выпісваў "ЛіМ", "Народную газету", "Свабоду" і "Звязду". Гэтыя газеты задавальнялі мае духоўна-эстэтычныя патрэбы. З іх я атрымліваў усебаковую інфармацыю пра падзеі ўнутры сваёй краіны і за яе межамі. Прычым — на беларускай мове.

Потым здарылася так, што ад "Народнай газеты" засталася толькі назва. І я адмовіўся ад яе. Але цяпер ужо нешта пачало рабіцца з патрыярхам беларускамоўнага друку — "Звяздой". Вельмі няроўная! І трывожыць, каб не згубіла яна галоўнае сваё багацце — нацыянальную ідэю, нацыянальную душу. Я асабіста знаёмы з шэрагам журналістаў-звяздоўцаў. На маю думку, гэта таленавітыя і сумленныя людзі. Мяркую, не па сваёй волі яны сёння іншым разам прамаўляюць "драўляным" языком нешта для сябе незвычайнае.

Ніколі не быў русафобам, ніколі не падтрымліваў тых, хто выступаў супраць сапраўды братэрскіх адносін з Расіяй. Але я — беларус, і мая радзіма — Беларусь. І калі я бачу, як зняважліва ставяцца да ўсяго беларускага тыя, каму па іх пасадах належыць абараняць нацыянальную годнасць народа, ягоны гонар, у мяне ўзнімаецца патрэба выказаць публічную нязгоду, свае слова. Мяркую, для ўмацавання дзяржаўнасці такая магчымасць для грамадзян павінна быць. Іначай — варыянт, які мы ўжо праходзілі, але яшчэ з больш цяжкімі наступствамі! Вось што і нам, шэраговым грамадзянам, і нашаму кіраўніцтву трэба ўлічваць. Нельга заганяць нязгодных у падполле.

А я хачу аднаго: каб я на сваёй радзіме адчуваў сябе гаспадаром, а ў дзяржаўных установах у адказ на маю беларускую гаворку гучала таксама беларуская. Каб не было ніякага прымусу, якой мовай карыстацца ў штодзённым жыцці. Я хачу, каб выконваўся хаця б закон аб раўнапраўнасці беларускай і расійскай моваў. А гэта значыць, што чыноўнік, які не ведае і не хоча вывучыць беларускую мову, не можа займаць пасаду ў дзяржустановах. Пра гэта і пісьменнік Іван Шамякін Прэзідэнту раіў паклапаціцца.

І яшчэ я хачу, каб за гэта маё жаданне мяне не лічылі русафобам і не навешвалі ярлык "нацыяналіст", укладваючы ў яго сэнс "вораг". Заўважце, усё гэта зацверджана ў дзяржаўным дакуменце з велічнай назвай Канстытуцыя.

Я ўжо размяняў восьмы дзесятак. Пара падвесці нейкі рахунак, азірнуцца назад.

Дык вось, так здарылася, што з дваццацігадовага ўзросту да выхаду на пенсію ў 1979 годзе я жыў далёка ў Расіі. Зразумела, карыстаўся тамтэйшай мовай і практычна забыў сваю родную. А калі вярнуўся на радзіму, са здзіўленнем убачыў, што і тут яе трэба яшчэ адшукаць. Ва ўсіх установах карыстаюцца расійскай (трасянкай). А беларуская мова захавалася толькі ў гаворцы простых людзей ды на шыльдах і пячатках пасля расійскамоўнага тэкста. Але спачатку, прызнаюся, я яшчэ не ўспрымаў гэта, як вялікую небяспеку для Беларусі, а тым болей для сябе асабіста. Пакуль пільна не задумаўся, да чаго тое вядзе. Ды вось грымнула "перабудова", нешта зрушылася. Пачалі з'яўляцца новыя газеты, з якіх я даведаўся, што з сябе ў сапраўднасці ўяўляла Вялікае Княства Літоўскае. Я ўпершыню даведаўся імёны і многіх так званых "ворагаў народа", яны паўставалі перада мной у сваім сапраўдным абліччы барацьбітоў за народнае шчасце. Для мяне адкрыццем было амаль што ўсё ў гісторыі маёй радзімы. Бо мае ранейшыя веды пра яе ўмяшчаліся ж у некалькі радкоў падручніка "Гісторыя СССР". Многія стагоддзі!

Я быў уражаны цудоўнай вясёлкай гістарычнай спадчыны Беларусі, якая мне адкрылася. То быў падарунак лёсу! Інакш не назавеш, бо гэта адбылося з чалавекам, які 41 год быў членам КПСС і шчыра верыў ва ўсё, што зыходзіла з кабінетаў ідэалагічных дагматыкаў бальшавізму.

Лёс зрабіў мне яшчэ адзін падарунак — я не толькі пазнаёміўся з творчасцю вялікіх (не пабаюся гэтага слова) суайчыннікаў — Ніла Гілевіча, Анатоля Вярцінскага, Васіля Быкава, Рыгора Барадуліна, Сяргея Законнікава, Сяргея Грахоўскага, але і пазнаёміўся з гэтымі выдатнымі людзьмі — гонарам Беларусі.

А потым мне аднойчы прысніўся сон, і я ў сне ўпершыню, як мне падалося, свабодна размаўляў па-беларуску. З таго моманту я паверыў, што адбылося маё вяртанне да сваіх каранёў, да свайго народа. Вяртанне выпакутаванае. І для мяне лёсавызначальнае.

І вось цяпер шкадую аб адным, што ўжо не ўбачыць мне вяртання на Беларусь — і ўжо назаўсёды! — яе гістарычных сімвалаў... Гэта не песімізм, а веданне рэалій. У нашым раёне недзе 22 школы, у якіх працуе крыху болей за дваццаць настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры. І што? Калі гэтыя "беларускамоўныя" асветнікі, пакінуўшы пасля званка класы, адразу на вачах і слыху сваіх вучняў пераходзяць на мову "старэйшага брата", дык да якой іншай высновы можна прыйсці? З каго браць прыклад дзецям? Застаецца спадзявацца толькі на іхні нацыянальны інстынкт ды на падтрымку продкаў — Дзядоў. Тым не меней не магу паверыць, што беларусы знікнуць як самастойны і годны народ — надта вялікая стаіць за імі гісторыя, надта распрацаваную і самабытную яны маюць культуру і мову.

І таму я з надзеяй кажу: Бог дапаможа нам.

**Фелікс ШКІРМАНКОЎ.**
г.Слаўгарад.

Віншуем!

# Рабочаму, паэту, мастаку Анатолю СТАНКЕВІЧУ — 60

Максім Танк на сваёй кнізе "Ключ жураўліны" напісаў так: "Дарагому другу Анатолю Станкевічу —з найлепшымі пажаданнямі. Мінск, 22/V.1973 г." Класік беларускай літаратуры ведаў, каму рабіў свой подпіс. Гэта менавіта ён, упершыню прачытаўшы творы рабочага з Баранавічаў, быў так узрушаны імі, што сам звярнуўся ў перыядычныя выданні з прапановай надрукаваць вершы Станкевіча, што ўрэшце і адбылося.

Анатоль Станкевіч — творца ў трох іпастасях: у працы — ён адметны чырвонадрэўшчык; у выяўленчым мастацтве — арыгінальны майстар драўляных скульптур і карцін на дрэве; у паэзіі — мае свой выразны паэтычны почырк. Дарэчы, друкаваўся ён і ў "Нашым слове", асабліва ў "НС" мне запомніўся яго верш "Другія жывуць, а мне не пражыць..." (№ 15, 1995).

Нарадзіўся Анатоль Іванавіч Станкевіч 2 сакавіка 1937 года ў вёсцы Жарабковічы Ляхавіцкага раёна Берасцейскай вобласці. У сувязі з гэтым мне чамусьці згадваецца вось гэты яго шчымлівы верш:

*Мой лёс мяне моцна пакрыўдзіў:*
*мая маці не спявала ў дзяцінстве*
*мне песень на роднай мове,—*
*вельмі рана памерла...*

*Калі я быў юнаком — мяне*
*сілком пасадзілі ў вагон цягніка*
*і павезлі на Поўнач...*
*Я стаў забываць беларускую мову.*
*"Ты ж беларус! Чаму ты здрадзіў*
*роднай мове?!"*
*А я ёй не здрадзіў.*
*У мяне яе адабралі.*

На долю Анатоля Станкевіча выпадаюць адно гора за другім: спачатку памірае маці Вера Іванаўна, а потым і бацька. Застаўшыся сіратой, юнак не пакідае вучобу, заканчвае сямігодку ў Жарабковічах, у Слоніме рамеснае вучылішча па спецыяльнасці чырвонадрэўшчыка. Потым былі цяжкія і прыдатныя гады працы ў Архангельскай вобласці, служба ў савецкім войску і нарэшце вяртанне ў родную Беларусь... З 1959 года ён жыве і працуе ў Баранавічах. Тут у 1968 годзе і быў надрукаваны яго першы верш.

У кнізе "Барановичи: Историко-экономический очерк" (1991) Анатоль Станкевіч упамінаецца двойчы на старонцы 90 як актыўны ўдзельнік літаратурнага аб'яднання "Плынь" і ў якасці цікавага мастака — саўдзельніка шматлікіх выставак. А ў мінулым годзе па Беларускім тэлебачанні мы змаглі пабачыць аўтарскі вечар А. Станкевіча. Такія людзі, як ён, — гонар горада!

Ёсць у паэта такія радкі:

*Не прыйдзеш у Паэзію абочынай,*
*Працуюць там усе чорнарабочымі,*
*Не дапаможа там чужая слава,*
*Збудуеш карабель і капітанам плавай...*

Мы мусім з імі поўнасцю пагадзіцца. У юбілейныя дні мы зычым рабочаму, мастаку, паэту Анатолю Станкевічу доўгіх творчых гадоў, міру, дабра, шчасця!

**Міхась МАЛІНОЎСКІ, правадзейны член Геаграфічнага таварыства.**

г. Баранавічы.

# ЦАНА ЭПІТЭТА — 10 МІЛЬЁНАЎ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар.1.)*

сабраць самыя разнастайныя звесткі і ад ахвяр радыяцыі, і ад спецыялістаў пра тое, што сабой уяўляе чарнобыльская навала як экалагічны чыннік, з якім даводзіцца існаваць беларускай нацыі — і ў фізічным, і ў псіхічным плане. Вельмі важна таксама тое, што ўсё гэта рэгулярна і ў розных формах паведамляецца сусветнай грамадскасці з тым, каб іншыя народы не пакідалі беларусаў сам-на-сам з чарнобыльскім цмокам.

Вяртаючыся ж да канкрэтнай судовай справы "Я. Іваноў супраць В.Якавенкі", які абразіў гонар і годнасць прафесара, варта згадаць вынікі даследавання навукова-даследчага інстытута гематалогіі пасля чарнобыльскай катастрофы. Цытуем дыктафонны запіс паведамлення самога Я. П. Іванова (у перакладзе на беларускую мову): "Калі ж наш інстытут правёў эпідэміялагічнае даследаванне на навуковай глебе, то высветлілася, што росту дзіцячых лейкемій (цяжкага анкалагічнага захворвання крыві. — **А.М.**) няма, а павелічэнне лейкеміяў у дарослых назіралася на забруджаных і не забруджаных тэрыторыях".

Усё ж ваш навуковы погляд — гэта адна справа, а іншае — судзіцца з аўтарам артыкула, які з вамі не згодзен, — нагадаў я паважанаму вучонаму пра месца, дзе адбывалася наша размова.

"Справа ў тым, — сказаў Яўген Пятровіч, — што газета "Набат", не маючы адпаведных дадзеных, абапіраючыся на дадзеныя тых вучоных, якія, між іншым, эмігравалі за мяжу і якія ўздымалі вось гэты так званы лейкемічны апакаліпсіс, стала казаць, што дадзеныя Іванова няправільныя. І газета "Набат"... на такіх вось падставах пачала называць мяне лакіроўшчыкам чарнобыльскай рэчаіснасці, гаварыць пра тое, што я машэннічаю (чаго варты загаловак матэрыяла Васіля Якавенкі — "Горазд мошенничать профессор Иванов!"). Як вучоны, што я не толькі даю няправільныя дадзеныя наконт медыцынскіх наступстваў Чарнобыля ды іхніх прычынаў, але яшчэ маю нейкія выгады..."

Блізка да гэтага гучалі выступленні Я.П.Іванова і ў часе судовага працэсу. Суддзя Тамара Высоцкая старалася ўнікнуць у спецыфіку не толькі навуковай тэрміналогіі, але і чаму ўсё-такі аўтар абвінаваціў вучонага ў машэнніцтве, іншымі словамі — у ашуканстве, махлярстве. Ды яшчэ і ў якасна павышанай форме — "горазд" ("вельмі"), здраднікам інтарэсаў беларускага народа, дапусціў "іншыя абразлівыя выказванні".

З пункту гледжання лексічнага значэння (тут часцяком спасылкі рабіліся на тлумачальныя слоўнікі расійскай мовы Ушакова і Ожэгава) некаторыя фразы артыкула, якія нібыта абражалі гонар і годнасць прафесара, былі ўрэшце прызнаныя не абразлівымі, а хутчэй павышана эмацыянальнымі. А вось разбіральніцтва наконт машэнніцтва і здрады пайшло значна складаней. Тут вучоны яшчэ раптам заявіў, што павышае ацэнку за маральны ўрон, нанесены яму аўтарам, і просіць суд павялічыць яе ў 10 разоў — з 50 мільёнаў да 500 мільёнаў рублёў, чым выклікаў прыкметнае ажыўленне не толькі ў зале сярод гледачоў, але і ў працаўнікоў Феміды. Магчыма, такая рэакцыя істца была выкліканая зноў жа эмацыянальнай абаронай адказчыка Васіля Якавенкі.

А Васіль Якавенка, абараняючы сваё маральнае аўтарскае права назваць спадара Яўгена Новікава вышэйпрыведзенымі эпітэтамі, у сваю чаргу нагадаў суду асобныя загалоўкі артыкулаў ці інтэрв'ю, якія даваў прафесар журналістам.

Так, 14 лютага 1993 года, паказаў Якавенка, амерыканская газета "Чыкага Трыбюн" надрукавала гутарку свайго карэспандэнта з беларускім вучоным-гематолагам пад недвухсэнсоўнай назвай: "Калі Чарнобыль не такі суровы, то навошта дапамагаць?" Васіль Якавенка паведаміў, што гэткая назва была лагічным вынікам таго, што казаў прафесар журналісту. А казаў ён, напрыклад, такое: "Праўда крыецца ў тым, што з 1986 па 1991 год не было аніякага росту выпадкаў лейкеміі ні ў Менску, ні па краіне ў цэлым".

Дарэчы, гэтую фразу працытаваў потым грамадзянін ЗША, прэзідэнт грамадскай дабрачыннай арганізацыі "Ад сям'і да сям'і", якая займалася гуманітарнай дапамогай чарнобыльскім рэгіёнам Беларусі, Рычард Валінгтон. У сваім лісце ў менскую вячэрнюю газету ён, у прыватнасці, напісаў, што згаданае інтэрв'ю ці не на два гады адкінула назад ягоную арганізацыю ў справе дабрачыннай дзейнасці "Ад сям'і да сям'і" для жыхароў Беларусі. Тут згадалася, што прафесар Я.Іваноў сказаў, што пасля Чарнобыля выпадкі дзіцячай лейкеміі не павялічыліся, а павялічваліся выпадкі лейкеміі ў дарослых. Але даючы інтэрв'ю амерыканскаму журналісту, ён, як высветлілася, і тых, і другіх ужо "пазбавіў" гэтых "выпадкаў" ажно на цэлых пяць гадоў...

З сакавіка 1995 года, казаў Васіль Якавенка, у артыкуле "Безлекавы генацыд" на старонках менскай гарадской газеты "Добры вечар" спадар Іваноў дапусціў такое выказванне: "Адзіным страшэнным фактарам наступстваў радыеактыўнага ўдару Чарнобыля з'яўляецца рост захворваемасці шчытападобнай залозы".

Як гэта — "адзіны фактар". На якой падставе такая катэгарычнасць? Памятаючы пра тое, колькі людзей уласнаручна ён паставіў на ногі, вылечваючы ад лейкеміі, шаноўны прафесар, тым не меней, нават я, дылетант, здзівіўся такой катэгарычнасці. Ну, добра, прафесар Я.П.Іваноў разважаў я, ёсць медыцынская зорка ў лекаванні і даследаванні захворванняў крыві, але як ён можа сцвярджаць адносна іншых, "негематалагічных" наступстваў катастрофы на здароўе людзей? Ды яшчэ на генетычным узроўні. Васіль Якавенка агучыў на судзе яшчэ адзін загаловак артыкула прафесара Я.П.Іванова: "Не так жахлівая катастрофа, як наступствы яе "ліквідацыі". Матэрыял быў надрукаваны ў газеце "Рэспубліка" 11 сакавіка таго ж самага 1995 года.

Аналізуючы ўсе гэтыя інтэрв'ю і публікацыі, сказаў Васіль Якавенка, ён у згаданым матэрыяле "Горазд мошенничать профессор Иванов" і прыйшоў да высновы, што прыніжэнне вынікаў наступстваў Чарнобыля на здароўе беларускага народа перад замежным грамадствам, чытачамі той жа "Чыкага Трыбюн" — ёсць здрада інтарэсаў сваіх землякоў. Мусіць таму і на нашу катастрофу за мяжой ужо не глядзяць як на сусветна значную. А таму і гуманітарнай дапамогі рэзка паменела.

У судзе В.Якавенка назваў здрадай тую канцэпцыю, якую, паводле ягоных словаў, прафесар Яўген Іваноў разам з яшчэ адным вучоным — Яўгенам Пятраевым прапанавалі нашаму ўраду. Канцэпцыя тычылася так званых "дастатковых абарончых мераў" ад уздзеяння згаданых наступстваў на здароўе насельнікаў чарнобыльскіх рэгіёнаў краіны. Згодна з ёю было прынята ўрадавае рашэнне, каб вёскі ды пасёлкі з райцэнтрамі, якія месцяцца ў зонах з засмечанасцю радыяцыяй ад 1 да 5 кюры, лічыць мажлівымі да жыцця. У выніку чарнобыльцы пазбаўляліся ўсялякіх на гэты конт ільготаў, сацыяльнай абароненасці. А гэта ж, падлічана, больш мільёна чалавек!

Згадалася, як намеснік старшыні Маладзечанскага райвыканкама Барыс Бароўскі расказаў аўтару гэтых радкоў, што ў Сяляўскую школу ходзяць дзеткі з чатырох забруджаных вёсак. Дык вось, вёскі Пекары і Селяўцы сталі "чыстымі" згодна з вышэй пазначаным рашэннем. Хаця і тыя вучні, і гэтыя маюць 70 працэнтаў розных "радыяцыйных" захворванняў: у пераважнай большасці на "шчытавідку" і анемію. Але пекарскія і сяляўскія дзеці ў вокамірг пазбавіліся бясплатнага харчавання ў школе, хоць усім малым яно цяпер, ой, як неабходна.

Акрамя істца (зыскоўца) і адказчыка, у судзе выступалі і сведкі. Запомнілася выступленне дэпутата новастворанай Палаты прадстаўнікоў Анатоля Волкава, 66-гадовага вучонага-медыка з Пінска, які на сваёй радзіме ў былым вайсковым гарадку некалькі год таму з дапамогай мясцовых уладаў арганізаваў буйны радыялагічна-даследчы цэнтр.

Спадар Волкаў у судзе заявіў, што паважаны прафесар, паводле сваіх навуковых поглядаў, праявіў жорсткасць у адносінах да некалькіх сот дзяцей, хворых на лейкемію: не звязаў іхнюю інваліднасць з чарнобыльскім фактарам, хаця дзеці, паводле А.Волкава, былі з чарнобыльскіх рэгіёнаў Беларусі. Цяпер маці гэтых падранкаў пішуць яму, дэпутату, лісты, поўныя болю і адчаю, бо дзеці ў будучыні сваёй застануцца па-за сістэмай сацыяльнай абароненасці, якую маюць чарнобыльцы.

Паважаны парламентарый паведаміў таксама суду, што Яўген Іваноў утойвае свой банк дадзеных, на падставе якіх ён робіць уласныя медыцынскія высновы, таму іх нельга надзейным чынам пераправерыць.

Ужо даючы мне пасля суда інтэрв'ю на дыктафонную стужку, Анатоль Ягоравіч сказаў, што не парламентарыі з'яўляюцца чарнобыльскім лобі, як сцвярджае ў адной публікацыі Яўген Іваноў, а што вось такія неабачлівыя дзеянні асобных вучоных ёсць сапраўднае "атамнае лобі" спрыянне атамшчыкам. На трэці дзень судовага працэсу Васіль Якавенка заявіў хадайніцтва, каб ягоны артыкул "Горазд мошенничать профессор Иванов" перадалі, па-першае, на мовазнаўчую экспертызу, а па-другое — вучоным АНБ і вучонаму з Расійскай акадэміі навук сп.Вараб'ёву, даследніку чарнобыльскіх наступстваў.

Не вядома чаму, але суддзя Тамара Высоцкая адмовіла адказчыку ў такой экспертызе, яўна парушаючы яго грамадзянскае права на поўную і кваліфікаваную абарону ў судзе. Урэшце яна прызнала вінаватым Васіля Якавенку ў абразе гонару і годнасці Яўгена Іванова. Матэрыяльны ўрон быў ацэнены ў 10 мільёнаў рублёў. Акрамя таго, суд абавязаў Васіля Якавенку надрукаваць абвяржэнне на свой артыкул "Горазд мошенничать профессор Иванов" у рэдакцыі тэкста самога прафесара, на старонках газеты "Советская Белоруссия"

Такой вось аказалася цана, на мой погляд, залішне літаратурнай эмацыянальнасці паважанага пісьменніка і журналіста.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА, сябра Беларускага Хельсінкскага камітэта.**

# Крымінал-дайджэст

## Купіць кватэру, як і прадаць — справа рызыкоўная

Апошнім часам у суды, а часцей у адпаведныя аддзелы міліцыі рэгулярна трапляюць справы такога кшталту: абмяняў чалавек кватэру па аб'яве, пераехаў на новае месца, а праз каторы час бы снег на галаву з'яўляецца туды грамадзянін з дакументам, што ён на гэтую кватэру мае законнае права, а новы ўладальнік павінен высяляцца. То добра, калі яшчэ на ранейшае месца. А як тая кватэра ўжо некаму перапрададзена ці можа чалавек, які хоча набыць (купіць-абмяняць) нейкую кватэру, праверыць дакладна — хто ў ёй жыў ці быў прапісаны раней, хто прапісаны і з якім правам зараз? Добра, калі ЖЭС дасць поўныя звесткі. Але ж не выключана, што нешта акажацца не заўважаным. А колькі віртуозаў "ліпы" ў гэтых прыбытковых для аферыстаў справах — дэтэктыўныя аповесці можна пісаць! Вось гаспадыня двухпакаёвай кватэры ў мікрараёне Захад, зрабіўшы выгляд, што згубіла пашпарт, развялася са сваім мужам і атрымала новы пашпарт на ранейшае прозвішча, але ўжо без штампа аб шлюбе. Але ж кватэра была прыватызаваная па першым пашпарце, а прадаецца па другім, дзе правы былога мужа не зафіксаваныя. Разведзены былы муж даведваецца пра новага ўладальніка кватэры, калі той з'яўляецца з хатнімі рэчамі. Што было далей — коратка не расказаць.

У другім выпадку ініцыятарам продажу жылля быў муж, жонка якога мела свой асобны рахунак на частку кватэры, але прад'явіць гэта не магла, паколькі знаходзілася ў калоніі, а пісьмовай згоды, заверанай у дзяржаўнага натарыуса, каб муж ад імя абоіх зрабіў абмен, не давала. А той настойліва імкнецца абмяняць гэтую кватэру на аднапакаёвую з даплатай на сваё імя. Каб "аперацыя" своечасова не была спыненая, магло здарыцца, што лёгкаверны партнёр па абмену доўга потым шукаў бы справядлівасці.

## Рэўнасць абвастрыла п'янка

П'янкі становяцца пачаткам самых розных крымінальных учынкаў. Абвастраюць яны і пачуццё рэўнасці, даводзячы яго да стану вар'яцтва. А тады чакай бяды. Што і здарылася на кватэры адной 44-гадовай жыхаркі Менска. Да гэтага яны дружна пілі, а недзе гадзіны ў тры ночы, як устанавіла папярэдняе следства, гаспадыня кватэры ў прыступу дзікай рэўнасці ўдарыла сваю госцю, 36-гадовую К. нажом, так што тую неўзабаве давялося ратаваць у бальніцы.

## У Беларусі пандэмія п'янства?

Спецыялісты лічаць, што калі ў краіне больш за 2 працэнты насельніцтва маюць нейкае інфекцыйнае захворванне, гэта лічыцца эпідэміяй, у часе якой адпаведныя службы краіны абавязаны прымаць неадкладныя меры па аздараўленні. Калі ж хворых болей за 4 працэнты, меры павінны быць самымі рашучымі. У Беларусі зараз, па падліках спецыялістаў, болей за 10 працэнтаў насельніцтва (каля мільёна чалавек) злоўжывае алкаголем, што прыводзіць у шэрагу выпадкаў да цяжкіх крымінальных учынкаў і штучнага шаленства на глебе атручвання алкаголем. У стане алкагольнага ап'янення робіцца да 70 працэнтаў найбольш цяжкіх і зверскіх злачынстваў. Да таго ж, па дадзеных Сусветнай арганізацыі аховы здароўя "сярэднедушавае" ўжыванне алкаголю звыш 8 літраў у год (у Беларусі лічба дасягае ўжо за 30 літраў гарэлкі на кожнага чалавека, уключаючы дзяцей) вядзе да паталагічных зменаў генафонду цэлага народа. Навукова-даследчы інстытут праблем крыміналогіі, крыміналістыкі і судовых экспертыз Міністэрства юстыцыі Беларусі асабліва ўстрывожаны імклівым ростам алкагалізму і наркаманіі сярод падлеткаў.

**Падрыхтаваў У. ВЕРАБЕЙЧЫК**

## "Дэман" этнічнай варажнечы на астравах Інданезіі

У дэмографаў пераважае меркаванне, што непрыязь паміж этнічнымі групоўкамі насельніцтва — хутчэй вынік скучанасці, асабліва ў гарадах. Некаторыя палітыкі, асабліва пракамуністычнага накірунку, бачаць падбухторшчыкаў у стане "буржуазных нацыяналістаў". Гэтыя канцэпцыі, здаецца, не зусім стасуюцца з тым, што зараз адбываецца ў Інданезіі. Пачаць з таго, што краіна, у якой зараз налічваюцца за 200 мільёнаў чалавек, размешчаная на мностве астравоў — усяго іх 17500, 3 тысячы заселеныя. Улада — таталітарнага тыпу, вельмі жорстка кантралюе ўсе сферы грамадскага і прыватнага жыцця, з магутным апаратам паліцыі, у тым ліку тайнай, якой "дапамагае" яшчэ і армія. Тым не меней, паведамляе карэспандэнт газеты "Известия" Ю. Савенкаў, інданезійскія ўлады вырашылі стварыць яшчэ і дадатковыя камандныя "цэнтры трывогі", якія абавязаныя адшукваць нават патэнцыяльных падбухторшчыкаў масавых хваляванняў. Справа ў тым, што, нягледзячы на жорсткія абцугі, у якія ўзята насельніцтва, хвалі расавых, этнічных і рэлігійных беспарадкаў пракася па ўсім архіпелагу. На востраве Ява натоўпы мусульманаў грамілі крамы, універмагі, банкі, школы, нават прытулкі, падпальвалі хрысціянскія цэрквы (у краіне, дзе 85 працэнтаў насельніцтва вызнае іслам, ёсць нямала прыхільнікаў хрысціянства). Пацярпелі дамы этнічных кітайцаў. Многія з іх — прыхільнікі каталіцтва ці пратэстанты, але аналітыкі зыходзяцца на меркаванні, што прычына пагромаў хутчэй эканамічная. У пераважнасці інданезійскія кітайцы (3 працэнты насельніцтва) маюць вышэйшы жыццёвы ўзровень, і гэта час ад часу выклікае гнеў бедных мусульманаў.

У той жа час на захадзе вострава Калімантана адбываліся сутыкненні паміж карэннымі жыхарамі — даякамі і мігрантамі з перанаселенага вострава Ява. Многія ў паніцы пакідалі жытло, жанчын і дзяцей перавозілі на транспартных самалётах падалей ад бяды. У некаторых выпадках шматлікія войскі і паліцыя аказваліся не ў сілах утаймаваць насілле — даводзілася прасіць падмацаванні.

Улады схільныя думаць, заўважае карэспандэнт, што за беспарадкамі стаяць партыйныя падбухторшчыкі, якія прагнуць "падарваць" стабільнасць, выкарыстоўваючы ў сваіх інтарэсах рэлігійную і расавую напружанасць, сацыяльную няроўнасць. Але ж камуністычная партыя ў краіне разгромленая яшчэ ў пачатку 60-х гадоў, калі яна сапраўды выкарыстала вышэйзначаныя сацыяльна-этнічныя фактары і з дапамогай Кітая спрабавала ажыццявіць дзяржаўны пераварот. З таго часу ў Інданезіі пануе жорсткі рэжым Прэзідэнта Сухарта, які пры адсутнасці альтэрнатыўных кандыдатаў пяць разоў запар выбіраўся прэзідэнтам.

Праваабарончыя інданезійскія арганізацыі заклапочаныя тым, што ўрад можа скарыстаць "цэнтры трывогі" дзеля разгрому ўсіх згуртаванняў іншадумцаў напярэдадні травеньскіх парламенцкіх выбараў і выбараў прэзідэнта ў наступным годзе. Тым болей, што ўлады напалоханыя абставінамі, калі, нягледзячы на этнічныя сутыкненні, значная колькасць насельніцтва пачынае выказвацца за дэмакратычныя перамены і нават асмельваецца выходзіць на дэманстрацыі.

**Ул. Ас.**

# "ГЭТА ДАЕ НАМ ЯШЧЭ АДЗІН ШАНС ЗАХАВАЦЬ СЯБЕ ЯК ЧАСТКУ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА..."

*У 80-х гадах Веслаў Харужы — тады яшчэ студэнт Варшаўскага універсітэта — быў адным з актывістаў руху праваслаўнай моладзі Беласточчыны, а таксама БАС — Беларускага аб'яднання студэнтаў. У 1990 годзе ён атрымаў дыплом магістра гісторыі. Цяпер працуе ў школе на Беласточчыне і працягвае актыўна займацца грамадскай дзейнасцю, з'яўляючыся сябрам Беларускага гістарычнага таварыства ды рэдкалегіяў месячніка "Czasopis" і альманаха "Białoruskie zeszyty historyczne".*

*Прапануем увазе чытачоў гутарку з ім карэспандэнта "Нашага слова"* ***Уладзіміра Панады.***

**—Беларускія асяродкі нашай краіны ведалі і ўздым, і заняпад. У якім стане знаходзяцца яны ў Польшчы?**

— Пэўна, пачаць трэба з найстарэйшай арганізацыі польскіх беларусаў — Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ), створанага яшчэ ў 50-х гадах. Яно дзейнічае і цяпер, называючы сябе найбольш актыўнай і ўплывовай арганізацыяй беларусаў Польшчы. Але вакол яго яднаюцца людзі пераважна старэйшага веку. Маладым жа ў ім падабаецца не ўсё. Многія з іх папросту саромеюцца таго, што старшыня БГКТ Ян Сычэўскі прысутнічаў на "ўсебеларускім народным сходзе" ў Менску як прадстаўнік не толькі сваёй арганізацыі, але і польскіх беларусаў.

Людзей іншай думкі яднаюць іншыя асяродкі. Так, у снежні 1988 года было створанае Беларускае аб'яднанне студэнтаў. Яно актыўна дзеяла некалькі гадоў, у такіх яго акцыях, як фестывалі "Басовішча", бралі ўдзел сотні маладых грамадзян і Польшчы, і Беларусі. У першай палове 90-х гадоў актыўнасць БАС паменшала — яго сябры выйшлі з студэнцкага ўзросту і больш увагі мусілі надаваць прафесійнай дзейнасці. Аднак у той час менавіта маладое пакаленне беларусаў Польшчы — былых БАСаўцаў — стварыла новыя арганізацыі і новыя выданні — той жа "Czasopis", "Дыскусію", "Białoruskie zeszyty historyczne"... Дарэчы, сёння я бачу спробы адраджэння былога ўплыву БАСа — у яго шэрагі прыходзіць новае пакаленне маладых.

Трэба памятаць аб тым, што змены, якія закранулі беларускія нацыянальныя арганізацыі, былі часткаю працэсу пераўтварэння ўсяго польскага грамадства. Пасля аслаблення, а потым і падзення камуністычнага рэжыму ўплыў адных грамадскіх аб'яднанняў зменшыўся, другіх —павялічыўся, ды, урэшце, на месцы часткі старых паўсталі новыя. Хто мае ахвоту дзейнічаць у беларускіх арганізацыях, той можа дзейнічаць. Праблема ў іншым: у агульнай слабасці грамадскага руху.

**— Але ж, як вядома, у Польшчы існуе звыш 20000 грамадскіх арганізацыяў?**

— Так, з пачатку працэсу дэмакратызацыі ў краіне грамадская актыўнасць людзей павялічылася. Але каб працаваць эфектыўна, арганізацыі патрэбныя, па-першае, досвед, па-другое — падтрымка не тым слоем грамадства, які яна мае прадстаўляць. Грамадская структура, якая не выконвае хаця б адной з гэтых умоваў, робіцца маргінальнай, адсоўваецца на ўзбочыну грамадскага жыцця. У Польшчы гэтак адбылося з NZS — радыкальнай і апазіцыйнай камуністычнаму рэжыму студэнцкай арганізацыяй, уплыў якой у 80-х гадах у маладзёвым асяроддзі можна было параўнаць з уплывам "Салідарнасці" ў рабочніцкім. Але сёння NZS згубіла колішнюю папулярнасць, у той час як посткамуністычныя арганізацыі моладзі працягваюць сваю дзейнасць.

Таму перад тым, як ставіць пытанне аб беларускім грамадскім руху, трэба спытаць пра іншае — колькі грамадзян Польшчы сёння вызначаюць сябе як беларусаў і на якую іх частку могуць абапірацца нейкія грамадскія структуры?

**— З Вашых слоў можна зразумець, што іх няшмат...**

— З цягам часу беларусы Польшчы з нацыянальнай меншасці ператвараюцца ў эміграцыю. Справа, якую робяць актывісты нацыянальных арганізацыяў, не мае шырокай падтрымкі. Гэта не дзіўна, бо людзям не хочацца быць прадстаўнікамі нацыянальнай меншасці. Многія, жывучы ў польскай дзяржаве, хочуць быць палякамі, такімі, як усе.

Ёсць людзі, якія, ведаючы становішча польскіх беларусаў, прыходзяць менавіта да гэткай высновы. Яна гучыць песімістычна, але ў ёй ёсць доля рацыі.

**— І што з гэтага вынікае?**

— Пакуль на Беласточчыне ёсць людзі, якія называюць сябе беларусамі, мы мусім адшукаць тут нашыя сляды, нашыя карані. Эміграцыя ў чужой краіне непазбежна вымірае. Але пакуль гэтага не адбылося, мы можам захаваць нашую спадчыну, каб паказаць наступным пакаленням, чыімі нашчадкамі і спадкаемцамі яны з'яўляюцца, якія традыцыі леглі ў падмурак культуры Беласточчыны і ўсяго беларуска-польскага сумежжа.

**— Паказаць менавіта палякам?**

— Так, бо Беларусь не хутка зацікавіцца намі, ды і ці зацікавіцца наогул? Пагдядзіце на Віленшчыну: хто даследуе беларускую прысутнасць там? У Вільні амаль не засталося мясцовых беларусаў. Мы ж, у адрозненне ад Віленшчыны, пакуль яшчэ маем сваё асяроддзе і пакуль што захоўваем яго самастойна, без падтрымкі з Беларусі.

**— Якім чынам?**

— Мы яднаемся. Арганізацыямі, створанымі таксама ў апошнія гады, ёсць Беларускае гістарычнае таварыства і Звяз беларускай моладзі. Ёсць Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне — адзіная ў Польшчы палітычная партыя нацыянальнай меншасці. Пасля выхаду з БГКТ самастойна дзейнічае літаратурнае аб'яднанне "Белавежа", зарэгістраванае ў 1990 годзе. Самастойнай юрыдычнай адзінкай ёсць Праграмная рада тыднёвіка "Ніва", які з органа БГКТ ператварыўся ў выданне беларускіх арганізацыяў Польшчы. Існуе Асацыяцыя беларускіх журналістаў Беластока, якая выдае "Czasopis" — інфармацыйна-культурны месячнік усходняй Беласточчыны. Гэтая ж арганізацыя выдала нядаўна "Гісторыю Беларусі" Міколы Гайдука, якую дасылае ва ўсе мясцовыя школы, дзе выкладаецца беларуская мова.

Праграмная рада тыднёвіка "Ніва", Беларускае гістарычнае таварыства, Асацыяцыя беларускіх журналістаў, "Белавежа", Беларускае аб'яднанне студэнтаў, а таксама Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне стварылі Беларускі саюз. Ёсць і іншыя арганізацыі, якія існуюць і дзейнічаюць па-за яго межамі — БГКТ, камітэт пабудовы музея і дома культуры ў Гайнаўцы, а таксама ЗБМ, які выйшаў са складу Саюза.

Кожная з арганізацыяў мае свае мэты і спосабы дзейнасці, сваё асяроддзе. На прыкладзе "Нівы" я бачу, што становішча беларускага выдання ў Польшчы можа быць даволі добрым: наклад тыднёвіка перавышае 2000 асобнікаў, акрамя яго, выдаюцца кнігі мясцовых аўтараў. Гэтак жа і Беларускае гістарычнае таварыства два разы на год выдае свой альманах, а таксама напісаныя яго сябрамі кнігі. Цікава тое, што выданні Беларускага гістарычнага таварыства прыцягваюць увагу не толькі беларусаў. Многія з польскіх гісторыкаў робяцца аўтарамі альманаха. Свае кнігі выдае "Белавежа".

**— Часам ствараецца ўражанне, што арганізацыі беларусаў Польшчы працуюць больш актыўна, чым падобныя ім па другі бок мяжы. Чым гэта выклікана?**

— Да 80-х гадоў — часу падзення камуністычнага рэжыму — у Польшчы не маглі існаваць ніякія арганізацыі, акрамя тых, якія кантраляваліся і фінансаваліся дзяржавай. Так паўстала і існавала БГКТ. Новыя беларускія арганізацыі польскім урадам не кантралююцца і маюць невялікія грошы ад Міністэрства культуры і мастацтва на частку сваіх культурніцкіх праграмаў. Апошнія два-тры гады мы працуем з прыватнымі фундатарамі. Акрамя таго, нейкую падтрымку арганізацыям апошнім часам аказваюць мясцовыя органы самакіравання Беластока і Бельска.

Апошнім часам мы спрабуем навязаць кантакты з польскімі і замежнымі фондамі — тымі, што падтрымліваюць культурніцкія ініцыятывы. Гэтая справа толькі пачынаецца, а найбольш нам дапамагае фонд Стэфана Баторыя — польская філія фонду Сораса.

**— Што страцілі і што набылі беларусы Польшчы, страціўшы і кантроль, і падтрымку ўрада?**

— Зыходзячы з уласнага досведу скажу наступнае: сёння мы маем свабоду. Мы можам друкаваць кожную кнігу, якую ўважаем за важную. Ніхто не накідвае нам сваіх рашэнняў. Але мы самі мусім зарабляць грошы на свае патрэбы альбо шукаць спонсараў. Людзям, якія прызвычаіліся атрымліваць усё ад дзяржавы, звыкнуцца з гэткім станам рэчаў нялёгка. Затое тыя, што ўмеюць працаваць, могуць зарабіць грошы самі ці пераканаць іншых у неабходнасці падтрымкі нашай справы.

**— Вы казалі, што Беларусь не думае пра беларусаў замежжа. А што думаюць пра Беларусь яны?**

— Сярод польскіх беларусаў, дарэчы, як і сярод палякаў, няма адзінства поглядаў на стан рэчаў у Беларусі. Адны кажуць, што нельга дрэнна пісаць пра Беларусь, бо гэта краіна, дзе жыве значная частка нашага народа. Мы, жадаючы дапамагчы нашым суайчыннікам у Польшчы захаваць іх беларускасць, таксама не можам выказваць нашае, часам вельмі крытычнае стаўленне да падзеяў там, бо гэта адкідае людзей ад беларускасці.

Гэта вельмі істотная і складаная праблема. Бо мы, маладыя, маем погляды на падзеі тыя ж самыя, што і свядомыя беларусы ў вашай краіне. Мы хочам, каб існавала незалежная Беларусь, бо гэта — умова захавання нашага народа наогул. Аднак мы жывём за мяжой і не з'яўляемся грамадзянамі Беларусі. Мы не маем права неяк уплываць на падзеі ў вас.

Што тычыцца вашых уладаў, дык нешта для нас яны ўсё-такі робяць. Найперш гэта тычыцца Гайнаўскага музея, а таксама дапамогі ў атрыманні выдадзенай ў Беларусі літаратуры. Але, жывучы ў Польшчы, мы бачым: урад гэтай краіны дзеля захавання польскай культуры замежжа робіць непараўнальна больш.

**— Як уплываюць на стаўленне палякаў да Беларусі і да польскіх беларусаў падзеі, якія адбываюцца тут?**

— Па-рознаму. У кожным грамадстве існуюць свае міфы, і адзін з такіх міфаў Польшчы гучыць так: "Беларусы падтрымліваюць камуністаў". Але ж мала хто і тут, і ў вас усведамляе, што жыхары Паўднёвай і Усходняй Польшчы — той жа самай Беласточчыны — свядомыя патрыёты сваёй дзяржавы і праціўнікі камуністычнай ідэалогіі. Таму ёсць прычыны: карэнныя жыхары гэтага рэгіёна, у тым ліку і беларусы, маюць тут глыбокія карані. Іхнія сем'і жылі на гэтай зямлі і валодалі ёй на працягу стагоддзяў.

Камуністычныя эксперыменты, спробы ўтварэння новай супольнасці людзей без мінулага адбываліся на тэрыторыях, атрыманых Польшчаю пасля апошняй вайны. Іх засялялі перасяленцамі з розных рэгіёнаў краю, перамешвалі іх, стваралі там калгасы ў той час, як зямля ў іншых месцах заставалася прыватнай уласнасцю... У сапраўднасці "чырвоны пас" Польшчы сёння праходзіць па захаду, а не па ўсходу краіны.

Але я гаварыў менавіта пра міф, створаны ў час барацьбы розных ідэалогіяў. Ён паўстаў таму, што да апошніх гадоў большасць палякаў не ведала амаль нічога пра наш народ. Але цяпер, пасля абвяшчэння Беларуссю незалежнасці, пасля падзеяў вясны і восені мінулага года, людзі ў нас штораз больш ведаюць пра Беларусь. Як паказваюць апошнія даследаванні грамадскай думкі, у Польшчы мноства людзей вельмі пазітыўна ставіцца да ідэі беларускай дзяржаўнасці і незалежнасці.

Сярод тых, што прытрымліваюцца гэткіх поглядаў, — староннікі "Салідарнасці", прыхільнікі ROP — Руху адраджэння Польшчы, UW — Уніі вольнасці. Яны кажуць: "Мы папіраем беларускі незалежніцкі рух, бо ён знаходзіцца ў становішчы, у якім на пачатку 80-х гадоў аказаліся мы, змагаючыся з камуністычным рэжымам".

Затое большасць тых, што стаяць на баку SDRP — сацыял-дэмакратычнай партыі, сцвярджаюць: тое, што адбываецца ў Беларусі, — выказ волі народа і ўнутраная справа вашай дзяржавы, у якую палякі не павінны ўмешвацца.

**— Што ведае пра нас сярэднестатыстычны паляк?**

— З шматлікіх тэлеперадачаў і газетных публікацыяў, прысвечаных вашай краіне, вынікае: з намі на ўсходзе мяжуе дзяржава з недэмакратычнай уладай, якая звязаная з Расіяй, якая можа стаць пугалам для Еўропы. Але палякі таксама ведаюць, што ў вас ёсць незалежніцкая нацыянальная думка, беларуская дзяржаўная думка. І гэткае стаўленне да вас грамадства вельмі істотна ўплывае на палітыку ўрада Польшчы.

Палякі, якія выступаюць за дэмакратычныя ператварэнні ва ўласнай краіне, вельмі прыхільна ставяцца да Беларусі і да беларусаў Польшчы. І гэта дае нам яшчэ адзін шанс захаваць сябе як частку беларускага народа на нашай радзіме — у Польшчы.



Кастусь Сідаровіч, адзін з арганізатараў беларускага культурнага жыцця Беластока ў 30-40-х гадах. Юстын Пракаповіч, народжаны на Стаўбцоўшчыне ў сям'і ўдзельніка Слуцкага паўстання, які, ратуючыся ад савецкай дзяржбяспекі, знайшоў па вайне прытулак у Беластоку. Янка Жамойцін, ураджэнец Лідчыны, дзеяч СБМ, які пасля рэпрэсіяў савецкага рэжыму быў змушаны пераехаць у Польшчу. Віктар Ярмалковіч — актывіст беларускага студэнцкага руху ў Вільні, які за свае пераконанні заплаціў побытам у Бярозе і ў савецкіх лагерах...

Успаміны гэтых людзей склалі кнігу "Лёс аднаго пакалення", выдадзеную нядаўна Праграмнай радай беластоцкага тыднёвіка "Ніва" з дапамогаю Міністэрства культуры і мастацтва Польшчы.

У прадмове да кнігі яе рэдактар Яўген Мірановіч піша: "Успаміны... якія змяшчаюцца ў гэтай кніжцы, з'яўляюцца асаблівым дакументам гісторыі беларусаў XX стагоддзя. Раней час ад часу ў Польшчы і Беларусі друкаваліся ўспаміны капэзэбоўцаў, грамадоўцаў ды іншых беларускіх змагароў за чужыя інтарэсы ў розных перыядах нашага стагоддзя. Найчасцей публікацыя такіх матэрыялаў была формай узнагароды, дадаткам да медалёў за адданасць нейкай ідэалогіі ці цэнтрам улады. Сідаровіча, Пракаповіча, Жамойціна, Ярмалковіча спалучае тое, што былі яны беларусамі і не адмовіліся ад свае нацыянальнасці ў найбольш неспрыяльных умовах. Ніколі за сваю працу на ніве беларускай палітыкі, культуры ці проста за вернасць нацыянальнай ідэі не атрымалі яны ніякай падзякі, а заплатай за самаадданасць і лаяльнасць свайму народу былі прысуды, турмы... Прайгралі яны, прайграла Беларусь".

**У.П.**



*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак Багушэвіч.*

Алесь КАЎРУС

# Рас пісаў, два пісаў.., альбо Як даследуе слова акадэмік

Калі сустракаеш у друку публікацыю вядомага вучонага, хочацца як найхутчэй з ёю пазнаёміцца, бо ёсць спадзяванне атрымаць новую інфармацыю, даведацца, як вырашаюцца актуальныя праблемы цікавай табе галіны навукі.

Гэтым разам у поле зроку трапіў артыкул акадэміка, доктара філалагічных навук А. Падлужнага "Рас павёў, два павёў..." ("Наша слова", 1997, № 5).

Падзагаловак "Дзеяслоў *распавесці* ў беларускай мове" ўносіць яшчэ больш змрочную яснасць: напэўна, зноў будзе сцябанне-хвастанне слоў.

На жаль, гэта так.

Шчыра кажу, да апошняга часу я не быў вялікі прыхільнік дзеяслова *распавесці*. Ды такой бяды: колькі яшчэ слоў жыве і някепска пачуваецца ў беларускай мове без маёй ласкі!

Артыкул А. Падлужнага паспрыяў таму, што я больш усвядоміў натуральнасць гэтых слоў, і яны цяпер на падыходзе ў мой лексікон.

Напачатку аўтар зазначае, што ў сучаснай літаратурнай мове "досыць шырока сталі ўжывацца лексемы з коранем *-вед-* з агульным значэннем 'ведаць': *распавесці, аповед, расповед*". Абгрунтаваць неправамернасць ужывання гэтых "запазычанняў з мовы ўкраінскай" і спрабуе акадэмічны вучоны.

Вядома, гэта справа сумлення навукоўца — не прымаць як рэальны факт станоўчыя вынікі кантактавання нашай мовы з украінскай і тым часам заўзята адстойваць словы, "якія з'яўляюцца агульнымі для беларускай і рускай моў". Такую сваю пазіцыю ён прыхоўвае цёмным лесам (для чытача-немовазнаўцы) лінгвістычных звестак і іх інтэрпрэтацыі.

Зыходнае сцверджанне аўтара можна зразумець так. Дзеяслоў *распавесці* запазычаны з мовы нашых паўднёвых суседзяў, а яго асабовыя формы выпрацоўваліся ўжо на беларускай глебе. Праўда, гэта выказана неяк блытана: "Паколькі ў беларускай мове такія дзеясловы, а значыць і іх формы (маюцца на ўвазе ўкраінскія: 1-я ас. адз. ліку *розповім*, 2-я ас. *росповісі*, 3-я ас. *розповість*... — **А. К.**) не фіксуюцца ні ў гісторыі, ні па дыялектах, тыя, хто ўвёў іх у зварот, асучаснілі іх формы — спрагаюць дзеяслоў *распавесці* наступным чынам: *Я распавяду, ты распавядзеш, ён (яна, яно) распавядзе*..."

Цікава было б даведацца ў шаноўнага даследніка: раз дзеясловаў не фіксуюць старажытная і дыялектная мова, то як можна гаварыць пра іх "асучасненне", "абнаўленне"? Мо ён хацеў сказаць "абеларусілі"?

Далей А. Падлужны правільна заўважае, што свае асабовыя формы дзеяслоў *распавесці* ў беларускай мове набыў "за кошт" дзеясловаў *весці, павесці*, г. зн. яны сталі аднолькава спрагацца: *распавяду* — як *павяду, распавядзеш* — як *павядзеш*...

Аднак ён лічыць заганай тое, што асабовыя формы дзеяслова *распавесці* супалі з парадыгмай спражэння дзеясловаў *весці, павесці*, значэнне кораня ў якіх іншае, чым у дзеяслова *распавесці*. Таму ёсць патрэба ўспомніць, што адносяць той ці іншы дзеяслоў да пэўнага тыпу спражэння (у расійскай мове А. Залізняк вылучае 16 тыпаў) на падставе формаў словазмянення, а не семантыкі. Напрыклад, дзеясловы *лячыць* і *калечыць*, можна сказаць, супрацьлеглага значэння, спрагаюцца аднолькава: *лячу — калечу, лечыш — калечыш, лечыць — калечыць*...

Дзеяслоў *распавесці*, выпраўляючыся ў шырокі літаратурны ўжытак, зручна размясціўся ўсімі сваімі асабовымі формамі ў парадыгме "старых" дзеясловаў тыпу *весці* (і вытворныя), *месці* (і вытворныя). У 3-й асобе мужчынскага роду яны канчаюцца на *-ёў (вёў, мёў)*. Аналагічную форму пераняў і дзеяслоў *распавёў*. За што ганіць гэты дзеяслоў? Ён жа ніякі не аднаасобнік, не патрабуе сабе адмысловых умоў існавання — уліўся ў "грамаду" да сябе падобных.

Асабовыя формы дзеяслова *распавесці*, у тым ліку *распавёў*, — вынік уздзеяння аналогіі, якая выступае важным чыннікам развіцця і функцыянавання мовы. Такая з'ява — змяненне формы слова на ўзор іншых слоў — вельмі пашыраная. Разгледзім прыклад.

Старажытны дзеяслоў *вѣдѣти* (ведаць) у адзіночным ліку меў формы: 1-я ас. *вѣмь*, 2-я ас. *вѣси*, 3-я ас. *вѣсть*, у множным ліку адпаведна — *вѣмъ, вѣсте, вѣдять*.

А потым, пад уплывам іншых дзеясловаў, атрымаў новыя словаформы: *ведаю (кідаю), ведаеш (кідаеш), ведае (кідае), ведаем (кідаем), ведаеце (кідаеце), ведаюць (кідаюць)*.

У дачыненні да асабовых формаў дзеяслова *распавесці* А. Падлужны лічыць аналогію з'явай негатыўнай — называе падменай, недапушчальнай "з пункту погляду сістэмы беларускай мовы". Ды імкнецца даказаць гэта, выкарыстоўваючы звесткі з гістарычнай фанетыкі, дарэчы, перад гэтым ён фактычна прызнаў, мо сам таго не заўважаючы, адпаведнасць асабовых формаў дзеяслова *распавесці* **марфалагічнай** сістэме беларускай мовы, калі "ўклаў" іх у парадыгму дзеясловаў *весці, павесці*.

Самі па сабе звесткі з гісторыі мовы, якія падае А. Падлужны, могуць быць цікавыя чытачу. Але яны не выканалі той ролі, якую адводзіў ім у сістэме доказаў навуковец. І вось чаму. Згадваныя словы (*распавесці* і яго формы) узніклі і ўлітаратурваюцца цяперашнім часам, калі ўжо не адбываюцца гукавыя змены, што назіраліся ў старажытнасці. На этапе засваення размоўцамі гэтых слоў дзейнічаюць фанетычныя і граматычныя заканамернасці сучаснай беларускай мовы.

І ўсё ж спынімся больш падрабязна на "фанетычнай" частцы артыкула.

Вучоны можа (павінен) выяўляць моўныя факты, з'явы, назіраць іх, імкнуцца высвятліць іх прычыны. Але ён не "прадпісвае" мове кірунак развіцця.

А. Падлужны мяркуе: "...форма *распавёў* супярэчыць заканамернасцям гістарычнага развіцця старога гука ѣ — **трэба было б** (падкрэслена мною. — **А. К.**) *распавеў*, як *раз'еў, растаўсцеў, напеў*".

Не зусім дакладны аўтар, калі піша: "... гэты [е] ніколі не пераходзіў у [о] у адрозненне ад этымалагічнага [е] ". Як адзначаюць вядомыя мовазнаўцы Ф. Філін, Ф. Янкоўскі, у шэрагу слоў галосны [о] з'явіўся нефанетычным шляхам на месцы былога ѣ. На ўзор *сёлы, сёстры, вёсны* стала *вёдры, гнёзды, сёдлы* замест чаканага *ведры, гнезды, седлы*.

У расійскай мове [о] нефанетычнага паходжання ўжываецца ў дзеясловах прошлага часу *зацвёл, расцвёл, отцвёл* (параўн. усходнеславянскія *цвѣтъ, цвѣсти)* — паводле аналогіі з формамі *вёл, отвёл, мёл*. Гэты прыклад дапамагае зразумець з'яўленне беларускай формы *распавёў*.

Такім чынам, у пэўных выпадках, асабліва пры ўсталяванні сістэмы словазмянення розных часцін мовы, уздзеянне аналогіі прыводзіла да вынікаў, адрозных ад тых, якія абумоўліваліся фанетычнымі законамі. Інакш сказаць, граматычная аналогія часам брала верх над фанетычнымі заканамернасцямі.

Не ратуе "гістарычна-фанетычнай" аргументацыі А. Падлужнага і спасылка на тое, што быццам бы носьбіты беларускай мовы, якія не знаёміліся з гістарычнай фанетыкай, "інтуітыўна адчуваюць, што форма прошлага часу мужчынскага роду дзеяслова *распавесці* не можа быць такой, як яе прапануюць філфакаўскія троечнікі (*распавёў*)".

На момант пагодзімся, паверым у моц інтуіцыі тых, хто не вывучаў гістарычнай фанетыкі. Толькі будзьма справядлівыя да канца — і ў дачыненні да "філфакаўскіх троечнікаў". Хто яны? Напэўна ж, не студэнты, а журналісты і выдавецкія супрацоўнікі, якія ствараюць тэксты і ўжываюць злашчасныя *распавесці, роспавед*. Чаму трэба пазбаўляць гэтых людзей права на інтуіцыю пры выбары формы слова? Яны ж, колішнія троечнікі, даўно пазабываліся элементарныя тэарэтычныя звесткі з гісторыі мовы...

Выносячы смяротны прысуд "запазычанням" *распавесці, расповед, аповед*, А. Падлужны бачыць іх галоўную віну ў тым, што "яны не ўпісваюцца ў агульныя фанетычныя заканамернасці беларускай мовы". Шкада, што ён не прыводзіць парадыгмы дзеяслова незакончанага трывання *распавядаць*. Але гэтыя формы (*распавядаю, распавядаеш, распавядае...*), відаць, былі б не на карысць аўтару, бо іх ўзоры здаўна існуюць у беларускай мове: *апавядаю, апавядаеш, апавядае*...

Давайце яшчэ раз паўзіраемся ў гэтыя словы, павымаўляем іх і паглядзім, у якіх месцах, дзе, чым яны выходзяць за рамкі, законы нашай мовы. Падаю іх у цытаце з артыкула: "... спрагаюць дзеяслоў *распавесці* наступным чынам: *Я распавяду, ты распавядзеш, ён (яна, яно) распавядзе, мы распавядзём, вы распаведзяце, яны распавядуць*. У прошлым часе ўжываюцца формы *распавёў, распавяла*, што адпавядае ўкраінскім формам *розповів, розповіла*".

Ці трэба даказваць, што тут з беларускай фанетыкай усё у парадку: перадаецца дзеканне-цеканне, аканне-яканне, захоўваюцца нормы націску .

Каб пераканаць сябе і чытачоў, што словы *распавесці, расповед, аповед* непатрэбныя беларускай мове, А. Падлужны заяўляе, што і так хапае лексічных сродкаў выказваць той самы змест. Называюцца словы: *расказаць (расказваць), паведаць, паведаміць, апавяданне, расказ*.

У спісу чамусьці "выпаў" дзеяслоў *апавядаць*, надта ўжывальны ў мастацкіх і літаратуразнаўчых тэкстах. Выпаў не так сабе — ён жа з'яўляецца словаўтваральнай базай назоўніка *аповед*, які асабліва прыдаўся ў функцыі тэрміна (адпаведна расійскаму повествование), і пацвярджае "законнароджанасць" апошняга. Параўн. падобныя аддзеяслоўныя назоўнікі: *догляд, дагляд* — ад *даглядаць, выклад* — ад *выкладаць, даклад* — ад *дакладваць*.

А вось слова-русізм спарадычнага ўжывання *паведаць* пастаўлена на другім месцы, пасля дзеяслова *расказаць*. Навукоўца не бянтэжыць, што гэтага слова не падаюць акадэмічныя Беларуска-рускі слоўнік (М., 1962) і Руска-беларускі слоўнік (Мн., 1982), абодва пад рэдакцыяй Кандрата Крапівы. Не зусім на месцы побач з *расказаць* дзеяслоў *паведаміць* — яны прыкметна адрозніваюцца значэннямі. А ўсё ж такім ілюстраваннем лексічнага "багацця" ствараецца бачнасць аб'ектыўнасці.

Знайшоў загану аўтар артыкула і ў словах *аповед* і *расповед*: "чамусьці пішуць іх двама" (ёсць яшчэ варыянты *аповяд, апавяд, расповяд, роспавед)*. Пры сур'ёзным падыходзе, непаслядоўнасць напісання — не падстава, каб адхіляць слова. Выбіраць і ўзаконьваць правільную форму — гэта клопат, абавязак і непасрэдны занятак перш за ўсё акадэмічных мовазнаўцаў. Што ж да слоў *аповед, расповед*, то, як абгрунтоўвае А. Падлужны, правільным было б іх напісанне з *е*.

Апрача фанетычных перашкод, якія нібыта не даюць слову *распавесці* набыць статус літаратурнага, выяўлены і такі недахоп. Маўляў, дзесьці гэтае слова лягло ў аснову жарту: "Рас павёў, два павёў, тры павёў".

Калі стаць на такі шлях выпрабоўвання слоў, дык мала якое застанецца неперакручаным. Мяркуйце самі: *раскінуў — рас кінуў, расказаў — рас казаў, расклаў — рас клаў, раздала — раз дала*...

З словамі, у словы любяць гуляць дзеці. Але ці годны гэта занятак сталаму акадэміку, вядомаму і вядучаму фанетысту? Хіба ж мала і так розных падсміхачоў, каб іх прымітыўныя спосабы дыскрэдытацыі нашай мовы прапагандаваць у друку?

У сваім непрыманні разгляданых слоў А. Падлужны апелюе да "значнай колькасці" носьбітаў беларускай мовы, якія нібыта ўспрымаюць іх негатыўна. Мне ж уяўляецца, што ўсялякія жартоўныя "аповяды" пра нашу мову выдумляюць некаторыя дасціпнікі навукоўцы.

Ацэньваць слова — справа дужа далікатная і адказная. Ці мала вядома прыкладаў, калі ацэнка нават выдатных майстроў слова не супадала з аб'ектыўнай, агульнапрынятай. Калісьці Якуб Колас залічыў да "няўдалага наватвора" М. Лынькова прыметнік *засяроджаны*. Сучаснікі расійскага пісьменніка А. Талстога ўспамінаюць, што ён вельмі любіў слова... *задница*, казаў, што "гэта цудоўнае спрадвечна рускае слова: *горница, горлица, задница*..." ("Новый мир". 1992, № 6, с. 173).

Прачытаўшы артыкул акадэміка, той-сёй можа падумаць: "Дзякуй Богу, з мовай у нас добра. Толькі адны гэтыя праклятыя аповеды, расповеды парушаюць лад і спакой". Каб жа гэтак! Ёсць куды большыя хібы, сапраўдныя парушэнні літаратурнай нормы. І іх шмат. Але пра гэта ад членаў-карэспандэнтаў і акадэмікаў — ні гуку!

Культура мовы

## Да чаго вядзем?

(Заканчэнне.)

У папярэдняй частцы нататак выказана меркаванне: нельга ўжываць калькі як беларускія адпаведнікі некаторым тэрмінам, тэхніцызмам і фразеалагізмам. Прапанавана таксама некалькі неалагізмаў. Неабходнасць іх стварэння падмацаваная словамі Язэпа Лёсіка.

Патрыярх нашага мовазнаўства таксама раіў вучыцца ў сялянства, якое "добра гаворыць пабеларуску". З той пары, а пісаўся артыкул "Некаторыя ўвагі да беларускае літаратурнае мовы" на пачатку 20-х гадоў, шмат што змянілася ў гаворцы вясковых жыхароў. Але засталася амаль непарушаная спадчына — колішнія запісы нашых казак, паданняў... Якое багацце мовы ў іх! Менавіта адтуль прапануе Язэп Лёсік чэрпаць веду.

У згаданым артыкуле мовазнаўца сама перш засяроджвае ўвагу на формах дзеепрыметнікаў: "Ідучы за расійскай літаратурнай мовай, наша літаратурная мова ўпадабала сабе ды вельмі часта ўжывае дзеепрыметнікі з формамі на *-чы, -шы, -мы*, як напрыклад: "*жыўшыя, й жывучыя* на зямлі істоты", "стагі парыжэўшыя стаяць", "над хвалямі сінеючага Ніла", "зацвердзеўшыя гукі". Язэп Лёсік тлумачыў гэтыя выпадкі "несвядомым перанясеннем расійскіх зваротаў у беларускую мову". А нашая мова мае "толькі дзеепрыметнікі залежныя (пасіўныя) на *-ны, -ты*, напрыклад: зроблены, разбіты, памыты, замкнёны — замкнуты, парыжэлы, пасівелы, састарэлы..." (тут адразу хочацца заўважыць, што насуперак натуральнаму нашаму слову ўсюды ў слоўніках падаецца памета *уст.*, г. зн. калька: **устарэлае**).

Пра тое, як нялёгка вырывацца з путаў чужынскае мовы, сведчаць не толькі згаданыя Я. Лёсікам радкі, але і словы самога аўтара: "Паэты і пісьменнікі інтуіцыйна адчуваюць *пануючыя*, характэрныя факты розных дыялектаў...". У гэтым выпадку сам Я. Лёсік літаральна пераказаў расійскі кніжны выраз "господствующие, характерные факты". Пра штучнасць падобных словазлучэнняў ён сам папярэджваў. І сапраўды, тут зусім лішняе слова "господствующие". А ў беларускім калькаваным перакладзе "пануючыя" — поруць вока.

У выпадку, калі цяжка падабраць добры адпаведнік "фіктыўным дзеяпрыметнікам на *-чы, -шы*", Язэп Лёсік прапануе "абыйсці іх апісальна. Напрыклад, замест "*жыўшых* і *жывучых* на зямлі істот" трэба сказаць "істот, *што жылі й жывуць* на зямлі. Або — "*Вы, што чытаеце або слухаеце гэтую кніжку, думаеце...*" а не — "*Вы, чытаючыя або слухаючыя гэтую кніжку, думаеце...*". Замест "*спасцерагаемы факт*" трэба сказаць: "*факт, які дае сябе спасцерагчы*" або — "*які спасцерагаецца*".

Асабліва цяжка перакладчыкам, якія перадаюць па-беларуску царкоўнаславянскім тэксты Бібліі або Евангелля. Я. Лёсік раіць: "замест "І знайшлі яго сідзячага (седящего) сярод настаўнікаў, слухаючага (слушающего) і пытаючага (вопрошающего)" трэба сказаць: "*І знайшлі яго, як ён сядзеў сярод настаўнікаў, слухаў іх і сам запытваў*".

Язэп Лёсік заўважыў і такі хіб, калі штучныя дзеепрыметнікі замяняюцца дзеепрыслоўямі падобнага паходжання. За прыклад ён падаваў сказ: "Сустрэне чалавека, нясучага гляк вады". Яго мовазнаўца прапанаваў замяніць: "Сустрэнеш чалавека з глякам вады", або выкарыстаць дзеепрыслоўе "нясучы". Прынамсі, гэтае слова казала ведзьма з нашай народнай казкі "Як дзедава дачка спамаглася...": "Дзежачка-галубачка, ці не бачыла дзеўку бегучы, мех грошай несучы?"

**Пётра ПАШКАВЕЦ.**

